# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1782) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 8 ЛІПЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.




*Усімі колерамі вясёлкі зайграла сцэна, калі выйшлі на яе ўсе ўдзельнікі фестывалю.*

## Першы міжнародны

Два беларускія дні ў Беластоку (16 і 17 чэрвеня) выдаліся надзвычай сонечныя пасля тыдня дажджу і халадэчы, але не спякотныя, прыемныя. Блакітнае неба над амфітэатрам пры адкрыцці I міжнароднага фестывалю беларускай песні развеяла непакой арганізатараў і гледачоў за лёс фестывалю.

Беларусы горада і ваколіц у вялікай колькасці сабраліся ў амфітэатры, каб зноў (праз некалькі месяцаў пасля цудоўна багатага конкурсу „Беларуская песня '90“) паслухаць блізкія сэрцу песні, пачуць гучнае, бо сказанае ў поўны голас ды са сцэны, беларускае слова, адчуць сябе ў кругу сяброў і блізкіх.

— Няхай I фестываль беларускай песні ў Беластоку будзе месцам сустрэч беларусаў усяго свету, з Усходу і з Захаду, — сказаў, адкрываючы гэтая свята песні, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Аляксандр Баршчэўскі. — Працэс дэмакратызацыі ва Усходняй Еўропе толькі цяпер нам стварыў такую магчымасць, і мы імкнемся нашым фестывалем унесці сваю долю ў яднанне ўсіх беларусаў.

Прывітанне ад беларусаў, якія жывуць у ЗША, прывёз і выказаў са сцэны прафесар ньюйорскага універсітэта Тамаш Бэрд, які з вялікай сардэчнасцю адносіцца да беларусаў і нават навучыўся гаварыць па-нашаму. Яго прывітанне, выказанае па-беларуску, было прынята амфітэатрам авацыяй.

I дзень фестывалю быў конкурсным. Выступілі лаўрэаты „Беларускай песні '90“, а таксама прыехаўшыя з Беларусі госці. (З іншых краін удзельнікаў фестывалю не было, хоць спачатку арганізатары іх спадзяваліся). Прыехалі два рок-гурты з Мінска (найлепшыя там) — „Уліс“ і „Мроя“, а таксама віцебская „Грамада“ — гурт трошкі іншага характару, народны ансамбль „Світанак“ з Гародні і некалькі салістаў.

Конкурс працягваўся да позняга вечара. Кожнага ўдзельніка публіка сустракала зрывам апладысментаў. Спявалі ж вядомыя ў нас, лепшыя з найлепшых. Выконвалі ўжо спапулярызаваныя імі ў нашым асяроддзі песні, былі таксама і новыя творы, вельмі мілагучныя і прыемныя. Мяшалася традыцыя з сучаснасцю, у неба ўзляталі напевы нашых продкаў і музыка ў стылі мадэрну. Публіка прымала вельмі цёпла ўсіх, хоць рознымі людзьмі па-рознаму. Старэйшая публіка святлела на тварах, людзі ўсміхаліся, апладзіравалі. А моладзь крыкамі захаплення, танцамі, маніфестацыяй беларускай сімволікі прымала сваіх ідалаў.

Сканфрантаваліся і зліліся ў адно наша імкненне да ўтрымання культурнай спадчыны сваіх карэнняў, стыль спеву сярэдняга і старэйшага пакалення з новым, маладым, энергічным і наступальным. Удзельнікі-госці выказаліся высокім прафесіяналізмам, мастацкасцю выканання, паказалі вельмі багатыя нацыянальныя ўборы. Аутам нашых самадзейнікаў была натуральнасць, аўтэнтычнасць, паклон спадчыннай песні, у якім выражалася радасць ад прабывання ў крузе блізкіх і родных нам людзей, і не толькі па крыві, але і па душы.

У арганізацыі фестывалю вялікую дапамогу аказалі нашаму таварыству выкладчыкі і студэнты Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута і Мінскага інстытута культуры. Пад іх дасведчаным у такіх справах вокам укладваўся план фестывальных канцэртаў і было зроблена афармленне сцэны. Дацэнт Мінскага інстытута культуры рэжысёр Пётр Гуд апрацаваў і дагледзеў выкананне ўсяго ходу фестывалю, а заслужаны артыст БССР, загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры Уладзімір Мішчанчук быў аўтарам сцэнаграфіі фестывалю, якую выканалі студэнты Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута пад кіраўніцтвам свайго апекуна-мастака і загадчыка кафедры інтэр'ера Лявона Дзягілева.

Вышэй названыя прадстаўнікі мастацкага руху Беларусі ўвайшлі ў склад фестывальнага журы. Апрача іх у журы ўвайшлі кампазітар, член Саюза кампазітараў СССР Валянціна Сярых і этнамузыколаг з Варшавы Дарота Фрасункевіч. Давялося прымаць удзел у працы журы і мне, як прадстаўніку грамадскай думкі беластаччан.

Журы вельмі высока ацаніла ўзровень выканаўцаў. Асабліва падкрэслівала заслугі тых, што ўносілі нешта новае, сучаснае ў наш традыцыйны аматарскі рух. Даацаніла таксама і тых, што ўмеюць падняць з народных глыбінь нашу нацыянальную спадчыну і паказаць яе сучаснаму гледачу так, каб яму самому захацелася тую песню спяваць.

Усе ўдзельнікі конкурсаў былі падзелены толькі на дзве катэгорыі: салісты (у тым ліку і дуэты) і групы. Лічыўся мастацкі ўзровень і сцэнічнае ўражанне.

**Сярод салістаў:**

I месца заняла Юстына Кардзюкевіч з Бельска.

II месца — дуэт з Гародні:

**(Працяг на стар. 6)**

## На мяжы

— 6 —

А можа на ўсю праблему глянуць яшчэ з іншага пункту гледжання. Германія, як вядома, дазволіла Гітлеру ўлезці ў крывавы вір. Праўда, яе матэрыяльныя і чалавечыя страты намнога былі меншыя, чым тых народаў, на якіх яна напала. Аднак немцы выйшлі з вайны балюча пашчыпаныя. Да гэтага ўсяго страцілі значную колькасць зямель, якія былі іх уласнасцю перад пачаткам вайны. Знішчана была сельская гаспадарка, спалены гарады, мільёны забітых і мільёны палонных. Адным словам, вайну, якая мела прынесці ім славу, багацце і тэрытарыяльныя заваёвы, татальна прайгралі. Дайшла і яшчэ адна нацыянальная бяда — падзел Германіі на дзве дзяржавы. Здавалася ўсім народам, асабліва славянскім, што такі стан рэчаў утрымаецца сотні, а можа і тысячы гадоў, што Германія ніколі ўжо не ўзнімецца і не створыць пагрозы для блізкіх і далёкіх суседзяў. Аднак так не сталася. Немцы, якія прайгралі вайну, выйгралі мір. Раптам усе народы свету, у тым ліку і народы-ахвяры нямецкай агрэсіі, загаварылі згодна: немцы заслужылі на еднасць. Нямецкая еднасць вынікае з натуральнага права народаў на самавызначэнне. Ідэя аб'яднання, якая на працягу сарака пяці гадоў трактавалася як фактар дэстабілізацыі ў новай Еўропе, раптам пачала трактавацца як фактар еўрапейскай стабілізацыі. Так, дарагія чытачы, уся гэта палітыка, з якой маем дачыненне тады, калі гаворым інакш, чым думаем, а робім інакш, чым гаворым, як бы пацвярджае словы Гітлера аб тым, што пераможца заўсёды мае рацыю. А немцы ж сталі бясспрэчнымі пераможцамі ў пасляваенныя гады. Сёння яны дыктуюць правілы еўрапейскай гульні, а заўтра падыктуюць правілы гульні ўсяму свету.

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Часта, калі ляжу ў бяссонныя ночы, бачу, як на зволненай фільмовай стужцы, кагорты нямецкіх салдат, якія з мінамі пераможцаў ідуць праз Бандары на ўсход. Той марш завёў іх у гібель. Аднак сённяшні іхні тэхналагічны, арганізацыйны, фінансавы марш мае перад сабой пераможныя перспектывы. Няма што ашукоўвацца. Славянскія народы і праз стагоддзі не дагоняць немцаў у эфектыўнасці працы. Я не вельмі веру ў тое, што краіна, якая мае слабую сельскую гаспадарку і слабую прамысловасць, можа мець вельмі моцныя ўзброеныя сілы. Па колькасці салдат гэта магчыма, але па якасці ўзбраення — не. І таму аб'яднаныя немцы ў вельмі кароткі час могуць стварыць такую армію, ад якой задрыжыць свет.

Разважаючы нямецкую праблему будучага, трэба памятаць і яшчэ аб адным. Як я ўжо гаварыў у палове XXI стагоддзя немцы будуць налічваць 100 мільёнаў жыхароў. А Германія мае параўнаўча невялікую тэрыторыю, няцэлых 400.000 квадратных кіламетраў. Атрымліваецца, што на кожны квадратны кіламетр прыпадзе 250 немцаў. А трэба яшчэ адкінуць горы, рэкі, азёры, і тады лічба гэта ўзрасце прынамсі да 300 чалавек на кіламетр. Гэта вельмі многа. Ці не адродзіцца зноў тэорыя аб патрэбе „жыццёвай прасторы“ для нямецкага асілка?

Канцлер Коль на ўсю справу глядзіць адназначна. Паводле яго, Германія не можа быць дэмілітарызаванай. І ён несумненна глядзіць на справу перспектыўна. Ведае, што так думае сёння большасць народаў. І хто ведае, ці не надыйдуць гады, у якіх, як гэта было пры Гітлеры, практычна ўсе немцы паставяць на вырашэнне нацыянальнага быць або не быць пры дапамозе зброі. І тады быць бядзе. Вялікая армія для Германіі можа прынесці вялікую бяду свету. З гэтага не вынікае, што ўжо сёння Коль рыхтуе Германію да новых войнаў. Веру, што яго намеры і планы маюць мірны характар. Але Коль адпавядае толькі за сённяшнюю Германію, а не тую, якая будзе ў палове XXI стагоддзя. Новыя пакаленні немцаў будуць весці новую палітыку і праз дзесяць гадоў ніхто не будзе гаварыць: мы не будзем рабіць так і так, бо так не рабіў Коль. Новая эпоха падыктуе іншыя тэорыі і іншую практыку. Мой нядаўні госць з ЗША сказаў, што па сутнасці ўсе ў яго краіне і ўвогуле на Захадзе не хочуць аб'яднання Германіі, але ўсе бездапаможна раскладаюць рукі і гавораць: не можам не дазволіць немцам злучацца. Гэтаксама захоўваемся і мы. Раскладаем бездапаможна рукі і думаем: а можа ўсё будзе ў парадку? Можа, сапраўды ўвесь свет змяніўся на лепшае?

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Сяляне пратэстуюць** супраць сельскагаспадарчай палітыкі ўрада. Дамагаюцца яны ўстанавіць мінімальныя цэны скупкі асноўных прадуктаў і вырашыць праблемы малочнай вытворчасці. Група сялян правяла акупацыйную забастоўку ў будынку Міністэрства сельскай гаспадаркі ў Варшаве.

**Нацыянальна - дэмакратычная партыя Беларусі** ўтварылася ў Мінску з мэтай адрадзіць нацыянальную свядомасць беларусаў і незалежнасць рэспублікі.

**Іерархі Уніяцкай царквы,** епіскапы з Украіны, Канады і ЗША, сустрэліся ў Ватыкане з папам Янам Паўлам II. Украінскім епіскапам упершыню было дазволена выехаць за граніцу.

**Візіт рымскага папы на Украіну** будзе магчымы ў 1996 годзе, у час еўхарыстычнага кангрэсу у Львове. Такое меркаванне распаўсюджвае Максім Германюк — архіепіскап Уніяцкай царквы ў Канадзе.

**Двухмесячная гаспадарчая блакада Літвы** нанесла гэтай рэспубліцы страты ў 100 мільярдаў рублёў.

**Машына з лякарствамі і медычнай апаратурай для бальніцы ў Каўнасе** (дар беластоцкіх устаноў і арганізацый) не магла пераехаць польска-савецкую граніцу. Пагранічнікі патрабавалі візаў ад прадстаўнікоў Польскага чырвонага крыжа. На граніцы ў Агародніках медычны дар быў перагружаны ў савецкую машыну.

**Лех Руткоўскі выбраны прэзідэнтам Беластока.** Яго кандыдатуру прапанаваў Клуб каталіцкай інтэлігенцыі.

**Ваяводскім камендантам паліцыі ў Беластоку назначаны капітан Люцыян Калішэўскі.** Апошнія дванаццаць гадоў працаваў ён у Галоўнай камендатуры міліцыі ў аддзеле барацьбы з гаспадарчымі злачынствамі.

**I ваяводскі заснавальніцкі з'езд Сацыял-дэмакратыі Рэчыпаспалітай Польскай** праходзіў у Беластоку. З'езд выбраў старшынёю Збігнева Кжывіцкага і прыняў праграмныя дакументы, у тым ліку пастановы аб нацыянальных меншасцях і супрацоўніцтве з Гродзенскай вобласцю.

**Саюз ветэранаў 1920 года** быў зарэгістраваны ваяводскім судом ў Варшаве. Гуртуе ён удзельнікаў польска-савецкай вайны 1918—1921 г.

**У Легніцы** два члены Канфедэрацыі незалежнай Польшчы ўжо другі месяц працягваюць галадоўку ў знак пратэсту супраць прабывання савецкіх войск у Польшчы.

**З савецкай ваеннай часці ў Магдэбургу (ГДР)** уцёк дзевятнаццацігадовы салдат С. Сувораў. У час пагоні ўцекача, які раней узяў чатырох заложнікаў, застрэліла паліцыя. Сувораў намагаўся атрымаць згоду вярнуцца дадому.

**Конкурс на герб Белавежы** аб'явілі войт і гмінная рада гэтай мясцовасці. Наша рэдакцыя мяркуе, што ў гербе Белавежы павінен быць зубр.

### БУДУЦЬ ФІЛЬМЫ АБ БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Першы фестываль беларускай песні ў Беластоку і міжнародная скарынінская навуковая канферэнцыя ў Варшаве прыцягнулі ўвагу да нашых праблем людзей навукі і культуры з БССР.

Сярод гасцей, якія ўдзельнічалі ў вышэй названых мерапрыемствах, былі дзве групы беларускіх кінематаграфістаў. Кінарэжысёр кінастудыі „Беларусьфільм“ Уладзімір Колас на Беласточчыне знаходзіўся ўжо другі раз. Вынік мінулагодняй пабыўкі — гэта беластоцкі эпізод ў фільме „Сон аб Беларусі“ і гадзінная тэлеперадача ў цыкле „Ліра“.

Зараз рэжысёр Уладзімір Колас, кінаапаратар Леў Слобін і гукарэжысёр Алесь Тыцюха акуратненька сфільмавалі фестываль, а таксама пабывалі ў Нарве, дзе адбудоўваецца абгарэлая царква, і ў Супраслі, дзе праводзіцца рэканструкцыя ўзарванага немцамі ў 1944 годзе манастыра.

Другі калектыў кінематаграфістаў спадарожнічаў скарынінскай канферэнцыі. Намеснік дырэктара Галоўнай дырэкцыі праграм Беларускага тэлебачання Данат Яканюк, рэжысёр Сяргей Кацьер і галоўны тэлеаператар Уладзімір Пранько пасля канферэнцыі працавалі творча на Беласточчыне. Наведалі яны Беласток, Белавежу, Гайнаўку, Бельск, Крынкі і Рыбалы. Размаўлялі з беларускімі дзеячамі, святарамі, літаратарамі і настаўнікамі. Былі гасцямі беларускіх ліцэяў і нашай рэдакцыі. Данат Яканюк з сябрамі заехаў і ў Орлю, адкуль выводзяцца яго карэнні.

Запісаных матэрыялаў хопіць на некалькі фільмаў і тэлевізійных перадач. Шкада толькі, што жыхары Беласточчыны не змогуць іх паглядзець, бо, як дагэтуль, нашыя тэлевізары прымаюць толькі першую праграму Цэнтральнага тэлебачання. Пры гэтым узнікае пытанне: чаму ж не трансляваць на Беласточчыну беларускую праграму? Беластоцкія беларусы рады паглядзець і мінскае тэлебачанне.

**В. Луба**




### ВАЛКАВЫЦКАЙ НЕ ДАСПАДОБЫ БДА

Вера Валкавыцкая ў сваёй публікацыі „IX дні царкоўнай музыкі“, замешчанай у „Ніве“ ад 10 чэрвеня, дакладна назвала ўсіх фундатараў узнагарод, старанліва прамаўчаўшы Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА). Удзел беларускай партыі ў гэтай выдатнай імпрэзе быў далёка не апошнім, дасягнуў амаль мільёна злотых і датычыў м.ін. спецыяльнай узнагароды царкоўнаму хору з Нараўкі.

Гэты прыкры інцыдэнт дрэнна сведчыць пра журналісцкую сумленнасць Веры Валкавыцкай.

**Сакрат Яновіч**
**Старшыня БДА**

**Ад аўтара:**

*Стары чалавек любіць чапляцца. Таму зласлівасць Сакрата Яновіча адносна маёй журналісцкай сумленнасці і хвараблівыя вывады аб непрыхільнасці да БДА мне не надта забавелі. Перажыву і гэта. А ў чытачоў вельмі моцна прашу прабачэння за мой недагляд у апрацоўцы матэрыялу да друку — у першай, рукапіснай версіі артыкула было названа БДА як фундатар вялікай ўзнагароды для вясковага царкоўнага хору ў Нараўцы. У час перапіскі гэты сказ быў згублены. Вельмі цаню факт, што Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ўключылася ў гэтае каштоўнае мерапрыемства — Дні музыкі царкоўнай у Гайнаўцы.*

**Вера Валкавыцкая**

# Чарнобыльская бяда

**Некаторыя медыцынскія праблемы ў Беларусі, звязаныя з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы.**

Чарнобыль — праблема ўсяго чалавецтва, таму што чарнобыльскія радыенукліды выпалі па ўсім зямным шары.

У век атамнай энергетыкі яшчэ мала вывучана ўздзеянне розных малых дозаў радыяцыі на чалавека, флору і фауну. Не вывучана сумеснае ўздзеянне радыенуклідаў і цяжкіх металаў, якія выпалі ў выніку дэзактывацыйных работ (свінцовыя анеміі ў Краснапольскім і Слаўгарадскім раёнах Магілёўскай вобласці, алапецыя (аблысенне) у выніку ўздзеяння бора ў Брэсцкай вобласці; свінцовыя гіпертэнзіі ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці і т.д.). Некаторыя спецыялісты лічаць, што рост захворванняў туберкулёзам (на 14,4 прац.) выкліканы ўздзеяннем „гарачых часцінак" — частачак ядзернага паліва, трансуранаў.

Асноўная праблема Беларусі гэта тое, што ўсё насельніцтва падвяргаецца ўнутранаму абпраменьванню праз прадукты. ЧДУ (часова дапушчальныя ўзроўні), зацверджаныя міністэрствам аховы здароўя СССР, дапускаюць сёння сутачнае накапленне радыенуклідаў у арганізме ў 300—400 разоў большае, чым да 1986 года. З прычыны кепскага кантролю і вельмі малой колькасці дазіметраў на стол чалавека трапляюць прадукты, забруджанасць якіх у многа разоў перавышае ЧДУ. Такім спосабам узрастае калектыўная доза, значыць, узрастае рызыка стахастычных эфектаў. З другога боку вядома, што з павелічэннем абпрамененай папуляцыі ў геаметрычнай прагрэсіі ўзрастае рызыка генетычных зменаў.

На першае месца ў рэспубліцы выйшла сёння эндакрынная паталогія. Радыенуклідаў $У_{131}$, $У_{132}$ і $У_{133}$ выпала $17 \cdot 10^6$Кі, што ў пяць разоў больш, чым ізатопаў цэзія. Ёдная прафілактыка пачалася пасля тыдня ад катастрофы ў некаторых неселеных пунктах Гомельскай вобласці. Праводзілася яна няправільна або зусім не праводзілася. Вымярэнне дозы ёднай нагрузкі на шчытападобную залозу вялося па-дылетанцку і не ўсюды, і таму вельмі складана ўстанавіць індывідуальныя дозы. Гэта ўскладняе прафілактыку і прагноз магчымых наступстваў. Але нават, арыентуючыся на прыблізныя калектыўныя дозы, можна сказаць, што каля 20 прац. дзяцей атрымалі нагрузку на шчытападобную залозу да 1000 рад (бэр) = 10 грэяў (Гр). Па меркаванні шэрагу вучоных, узнікненне рака шчытападобнай залозы магчыма ўжо пры дозе 100 рад (1 Гр). 200 рад (2 Гр) — гэта агульнапрызнаны парог шкоднага дзеяння на орган. Утоены перыяд узнікнення рака складае 10—30 гадоў, а ў дзяцей ён крыху карацейшы.

Частасць радыегенных пухлін нарастае з павелічэннем дозы, потым змяншаецца з-за гібелі прэканцэрагенназмененых клетак пры вельмі высокіх дозах. Пры большых дозах павялічваецца рызыка развіцця гіпатырэоза.

У 1989 годзе ў клініцы лячылася 1432 дзяцей. Сярод іх было 8 выпадкаў анкалогіі ограна, 2 выпадкі гіпатырэоза. За тры месяцы 1990 года выявіліся чатыры выпадкі рака шчытападобнай залозы.

Ёдная нагрузка ў Беларусі ў асноўным выпала на раёны Палесся, эндэмічныя па ёду. Абцяжваючымі абставінамі з'яўляецца тое, што ў гэтых раёнах ранейшая ёдная прафілактыка за 2—3 гады да аварыі была спынена у сувязі з дасягнутымі за мінулыя гады вынікамі стабілізацыі і паніжэннем колькасці выпадкаў зоба (тырэатаксікоз, хвароба Базедава). Сёння ўзрастае павелічэнне шчытападобнай залозы І і ІІ ступені. На канец 1989 г. у некаторых рэгіёнах яно дасягнула 50,2—70,8 працэнта. Вынікі паглыбленага абследавання дзяцей з павялічанай шчытападобнай залозай І—ІІ ступені ў клініцы паказалі, што 55,1 працэнта з іх мае адхіленні ў гарманальным статусе. У клінцы каля 8 прац. дзяцей з аўтаімунным (радыяцыйным) тырэаідзітам (запаленнем шчытападобнай залозы). Паводле дадзеных рэспубліканскага супрацьзобнага дыспансера захворванне тырэатаксікозам узрасло ва ўсёй рэспубліцы, узрастаюць выпадкі гіпатырэоза. У Чэрыкаўскім раёне ўзрост анемічнага сіндрома склаў у 1986 г. 13,7 працэнта, а ў 1989 г. — 38,7 працэнта. Наглядаецца выразнае нарастанне шыйных лімфадэнітаў (лімфатычных вузлоў), да 65,8 працэнта ў раёнах строгага кантролю (для прыкладу, у Віцебскай вобласці — 20,3 прац.). Растуць новаўтварэнні, за 1986 — 1988 г. з 229,9 да 247,2 на 1000 чалавек у рэспубліцы. У Краснапольскім раёне ўзраслі яны на 41 прац., у Веткаўскім — 40 прац., у Слаўгарадскім — 31 прац. Рост прыроджаных недахопаў за гэты час у рэспубліцы павялічыўся з 5,65 да 6,89 на 1000 нованароджаных, а ў Гомельскай вобласці — з 5,64 да 9,2. Вылучаецца значны рост і пацяжэнне ходу ўсіх саматычных захворванняў, асабліва хвароб нервовай сістэмы і страўнікава-кішачнага тракту.

Медыцынскія праблемы ў Беларусі будзе можна вырашыць паспяхова толькі пры ўмове тэрміновага адсялення двух мільёнаў чалавек з забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Там, дзе немагчыма атрымаць чыстыя сельскагаспадарчыя пракукты, людзі пражываць не павінны. Урадавая праграма ліквідацыі наступстваў Чарнобыля прадбачвае адсяленне 100 тысяч чалавек і то на працягу пяці гадоў. Каб затрымаць людзей у забруджаных раёнах, праграма прапануе павелічэнне зарплаты (часам у 2 разы), датацыі на чыстыя прадукты, чыстае малако, многія льготы.

Праўленне Беларускага экалагічнага саюза (БЭС) лічыць, што на адселеных тэрыторыях павінен быць створаны **Міжнародны эколага-радыелагічны заказнік**, у якім вучоныя свету будуць вывучаць уздзеяне розных дозаў радыяцыі на флору і фауну, магчымасці і методыку атрымання чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі на забруджанай радыенуклідамі зямлі.

Праўленне БЭС звяртаецца да еўрапейскай арганізацыі „Лекары свету" з просьбай дапамагчы стварыць сучасную службу радыяцыйнай медыцыны ў рэспубліцы і з прапановай да вучоных усяго свету прыняць удзел у супольнай працы над названымі вышэй праблемамі.

**Тамара Белавокая**, загадчык аддзела клінікі НДІ радыяцыйнай медыцыны, член Праўлення БЭС, старшыня Беларускага камітэта „Дзеці Чарнобыля"

# БЕТОНАМ У ЗАПАВЕДНІК

У Белавежы ў апошнія нялёгкія гады зроблена шмат добрага. Грамадскасць, прынамсі ў большасці, высока ацэньвае руплівасць і гаспадарнасць былага начальніка гміны Яўгена Паўлючука. Але зроблена таксама і адна вялікая памылка. Разбудова мястэчка была накіравана на поўнач. Вось ужо стаяць будынкі ў адлегласці 800—900 м ад мяжы (праз поле) біясфернага запаведніка і аб'екта сусветнай спадчыны чалавецтва. І невядома, каго тут найбольш вінаваціць? Мабыць, усіх па чарзе: ваяводскія ўлады, якія апрацавалі такі план прасторнага добраўпрадкавання мясцовасці, гмінныя ўлады, што не супраціўіліся гэтай недарэчнасці, і, урэшце, мясцовых навукоўцаў, якія не надта растлумачылі дэцыдэнтам небяспеку такога непрадуманага плана.

У студзені 1984 г. я публічна спытаў у інж. Л. Будрыка, дырэктара аддзела архітэктуры Ваяводскай управы ў Беластоку, ці ён бачыць небяспеку пашырэння Белавежы на поўнач? Адказаў ён, што такі напрамак вымушае эканамічны аспект — тут тэрыторыя аснашчана, а прапанаваны мной раён вул. Гранічнай, амаль створаны для разбудовы, не. На пытанне, ці вядомы падлік шкодаў, якія прынясе запаведнаму лесу сумежнае будаўніцтва, дырэктар мне нічога не адказаў. Цікава яшчэ тут і тое, што гутарка вялася на занятках па ахове прыроды, наладжаных для працаўнікоў Белавежскага нацыянальнага парка.

Абодвух будынкаў, якія бачым на здымку, ужо не разбурыць — на іх ужо выкладзены вялізныя грошы! Але можна яшчэ спыніць будаванне наступных, па-суседску. Проста трэба перапрацаваць абавязваючы план прасторнага добраўпарадкавання мясцовасці. Члены новай самаўправы, не адкладвайце гэтую справу на потым! Ратуйце жамчужыну нашай прыроды.

Тэкст і фота **Пятро Байко**



## Свойскія малюнкі



*Завулак у Тыкоціне. Мал. У. Петрука.*

## Наша пошта

**Шаноўная „Ніва“!**

Я цешуся, што атрымала Ваш адрас ад карэспандэнта з Мінска. Вельмі люблю творы Сакрата Яновіча, а перш за ўсё яго мініяцюры, выдадзеныя ў Англіі, ну і „Беларусь, Беларусь...“ Іншых яго кніжак не ведаю. Цікава мне, дзе можна пазнаёміцца з яго прозай у арыгінале, бо хацела б нешта напісаць у энцыклапедыю. Хацела б таксама пабачыць, як выглядае гэтая славутая „Ніва“! Можа дашлеце рэкламны экземпляр?

**Мэва Мэйран, Англія**

**Ад рэдакцыі:** „Ніву“ дасылаем. З творчасцю Сакрата Яновіча можаце пазнаёміцца ў Скарынінскай бібліятэцы ў Лондане. Яе адрас такі: Byelorussian Library and Museum, 37 Holden Road, London, N12 8HS.

## Сакрат Яновіч
# Жыве Беларусь!

— 2 —

Натыкаюся на беластоцкіх палякаў; бушуюць у някепскім рэстаране. З пагардлівасцю плебея, які пабагацеў, расплачваюцца яны з афіцыянткамі, не просячы здачы (шапацяць пяцідзесяцірублёўкамі). Савецкія грошы ўпалі ў Еўропе, а цэны тавараў за іх застаюцца, прыблізна, на тым самым ўзроўні (федэральны прэм'ер Рыжкоў намерваецца пачаць інфляцыю). Іншы тут эканамічны рынак; за сто рублёў, купленыя ў Польшчы за смешныя шэсцьдзесят пяць тысяч злотых, роўныя двум дням працы, можна ў Мінску пабыць панам праз буйны вечар (заказаць у гасцінічны нумар дзве бутэлькі каньяку для сваёй кампаніі, да гэтага чорную ікру і закусь на выбар). Тая сотня тутэйшым, гэта — нярэдка — дзве трэці іхняга месячнага заробку. Ну, чым яны не калонія для Захаду?!

У мінскіх крамах (пад канец мая) магчыма было свабодна набыць хлеб, сала, курыціну, агародніну. Але прамысловыя тавары — толькі пасля прад'яўлення пашпарта СССР з мясцовай прапіскай. На забарону ёсць свой спосаб: купля адбываецца праз падстаўных беларусаў. Такім чынам, між іншым, ратуюцца літоўцы ад маскоўскай гаспадарчай блакады іх рэспублікі. Сітуацыя пуставатых паліц у крамах нагадала мне польскі васемдзесят першы год, што закончыўся ваенным становішчам у краіне... Бяда ды гора; аднак на прыезджым з Расійскай Рэспубліцы бачыцца Беларуская ССР як зона дабрабыту. Усё залежыць ад таго, хто з кім раўняецца.

Паўзуць чуткі пра забастоўчыя камітэты ў Гомелі. Лідэр беларускай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце БССР, Зянон Пазьняк, збіраецца ехаць у Магілёў, дзе брыняе страйкавая сітуацыя. У сваёй парламенцкай прамове, бездакорна лагічнай, кпіць з разлезласці савецкай сістэмы, яе чалавекаканенавісніцкай ідэалогіі барацьбы класаў, склерозу думкі. На заўвагу яму Старшыні, што ліміт часу на выступленне ўжо вычарпаў, „Ваше время истекло“, рэплікуе намёкам і гэтак жа па-руску: „Это ваше время истекло!“

Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне“ дабіўся ў нядаўніх выбарах вельмі скромнага дэпутацкага корпусу, які не ідзе ў аніякае параўнанне з падобнымі ў суседніх рэспубліках. Разам з дэмакратычнымі саюзнікамі можа разлічваць не больш, як на дваццаць працэнтаў галасоў, што, прыблізна, адпавядае ступені нацыянальнага развіцця беларускага народа (якому, каб не гарбачоўская „перестройка“, было ўжо тры чвэрці да смерці). На шчасце, жыве яшчэ апошняе пакаленне, здольнае гаварыць і па-беларуску; бракавала дзесяці-пятнаццаці гадоў для поўнага пераўтварэння беларусаў у падгатунак расейскай нацыі. Жменька адраджэнцаў сярод варожага ім дэпутацкага тлуму зусім не пачуваецца зацюканай, часта дамінуе форум культурнасцю ды інтэлігентнасцю, неабвержнай аргументацыяй, праведшы свайго кандыдата, Станіслава Шушкевіча, аж на пасаду першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Рыхтуюць дэкларацыю аб незалежнай Беларускай Дзяржаве як фінальнай мэце іхняга руху.

Тым часам вуліца шаманіць уласнымі турботамі. Вялізныя чэргі перад універмагамі; людкове выкупляюць усенька, што трапляе пад руку, бо стала вядома, што ад ліпеня будуць моцна павышаны цэны (пра падбаўку заробкаў маўчаць газеты). Клянуць і валтузяцца, а міліцыі, як і ў нас, анідзе не відаць. Калі народ злосны і гатовы на ўсё, яна, блакітнапагонная, хаваецца ў мышыныя норкі.

*(Працяг будзе)*

### БДА ў Гданьску

26 мая 1990 года ў Гданьску ўзнікла тэрытарыяльная рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. На сходзе было 10 чалавек. Міхась Куптэль пазнаёміў усіх з акалічнасцямі ўтварэння БДА і з сітуацыяй беларускай меншасці ў Польшчы. Затым прадставіў праграму і статут беларускай партыі. Дыскусія вялася над мэтамі БДА ў Гданьску і праблемай прыналежнасці да партыі. Запіс у статуце, які выключае прыналежнасць да іншых партыяў, быў прычынай таго, што не ўсе сабраныя змаглі ўступіць у беларускую партыю. Аднак, хаця гэтага таксама няма ў статуце, яны сталі сімпатыкамі БДА.

Сваёй мэтай БДА ў Гданьску ставіць змаганне за беларускую свядомасць і мову сярод тутэйшых беларусаў і абарону перад паланізацыяй. Пакуль што існуе думка стварыць форум нацыянальных меншасцей ў Гданьску перад выбарамі ў будучы парламент Польшчы. Упаўнаважаным БДА ў Гданьску выбраны Міхась Куптэль. У раду БДА ўступіла 6 чалавек.

**Лена Глагоўская**

### Да 580-й гадавіны Грунвальдскай бітвы
## Шляхам гналоў

Дзяржаўны і вайсковы геній вялікага князя Юрыя-Вітаўта-Аляксандра дасягнуў свае вяршыні ў справе для нас, беларусаў, як і для ўсяе Славяншчыны, найважнейшай — у канчатковым разгроме крыжацкага Ордэна.

Пра агульнавядомую бітву пад Грунвальдам напісана безліч працаў, розных артыкулаў, раманаў, апавяданняў, паэмаў, песень. І хоць кожны з гэтых твораў пашырае і паглыбляе нашыя веды пра мінулае і ўзмацняе пачуццёвае заангажаванне да тых адлеглых падзей, аднак днём з агнём шукаць у іх праўды пра велічны ўклад беларускага народа ў знакамітую перамогу 15 ліпеня 1410 г. Амаль з кожнага радка польскіх аўтараў скаліць зубы хваравітая ганарыстасць, што нібыта Грунвальдская бітва — гэта „непадзельны трыумф польскай зброі“. Тое ж самае цвердзяць летапісцы-літоўцы ды, каб дадаць сабе ўпэўненасці ў гэтай хлусні, шматлікім сваім калгасам, саўгасам, фабрыкам, нават футбольным ды баскетбольным камандам надалі назву „Жальгірыс“, — гэта значыць „Грунвальд“. Пра свой „вялікі і вырашальны ўклад“ у грунвальдскую перамогу гучна разглагольствуюць расейцы, хоць аніводнага воіна з Маскоўскага княства пад Грунвальдам не было. Так і з іншымі бліжэйшымі нашымі суседзямі. Што ж, толькі няўдача — сірата, а ва ўдачы заўсёды бацькоў многа.

Гэтак атрымалася і з беларускім народам, на якога долю выпаў асноўны цяжар абароны Усходняй Славяншчыны і суседніх народаў ад крыжацкага напору. Але пра тое або не згадваецца ні словам, або пішацца абы-што ды і тое абразлівае для святой памяці нашых продкаў, якія мужнасцю і ахвярнасцю загарадзілі захопнікам дарогу на Славяншчыну і сваімі целамі густа ўслалі грунвальдскае бітоўнае поле. Гэтую балючую несправядлівасць нельга скідаць толькі на чужынцаў, бо і гэтак званыя „беларускія“ вучоныя пад дыктоўку сваіх маскоўскіх „калегаў“ ці варшаўскіх „прыяцеляў“ ва ўсіх паражэннях вінавацяць толькі беларускі народ, затое ўсе яго ўдачы і перамогі рабалепна прыпісваюць “добразычлівым” суседзям. Адны эміграцыйныя беларускія гісторыкі настойліва і паслядоўна абаранялі і абараняюць гістарычную праўду пра выдатную ролю беларусаў у амаль двухсотгадовым змаганні супраць Ордэна і ў перамозе над ім пад Грунвальдам. Праўда, апошнім часам прабуджаецца сумленне і ў некаторых мінскіх вучоных, асабліва маладых, і яны спрабуюць, хоць і надта ж нясмела, але ўсё ж гаварыць праўду. Ад усіх нас, беларусаў, і перш за ўсё ад нашых продкаў нізкі паклон ім — і тым, якія, працуючы за межамі Роднага Краю, абаранілі гонар беларускай навукі, як і тым, хто сёння на Бацькаўшчыне бярэцца ачышчаць яе гераічнае мінулае ад ілжы і паклёпніцтва.

Думка пра неабходнасць даць вырашальную бітву крыжакам,

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЯСЕДА**

„Пагранічча '90" — гэта назва літаратурнай бяседы, арганізаванай ў Белай-Падляшскай мясцовым літаратурным клубам „Максыма" і літаратурнымі групоўкамі Холма і Замосця, а таксама Ваяводскім праўленнем Таварыства польска-савецкай дружбы і Домам савецкай навукі і культуры ў Варшаве. Госцем маладых літаратараў быў Уладзімір Казбярук з Мінска. Расказаў ён аб польска-беларускіх літаратурных сувязях і наблізіў сучасную беларускую паэзію. Журналісты люблінскага квартальніка „Акцэнт" Вальдэмар Міхальскі і Дамінік Апольскі гаварылі аб кантактах з літаратарамі з-за Буга, а Сакрат Яновіч пазнаёміў сабраных са сваёй творчасцю і з праблемамі беларускай меншасці ў Польшчы.

На другі дзень адбыўся вечар, прысвечаны жыццю і творчасці эміграцыйнага паэта Вацлава Іванюка, ураджэнца Холмшчыны. Члены тэатра паэзіі з мясцовага Маладзёжнага дома культуры чыталі вершы сучасных паэтаў. У турніры аднаго верша перамаглі Кжыштоф Колтун з Холма і Эва Казяра з Белай-Падляшскай.

Дзеля супрацоўніцтва і гуртавання літаратурных асяроддзяў усходняй Польшчы вырашана было арганізаваць літаратурнае аб'яднанне „Пагранічча". Бяседу закончыла экскурсія па мясцінах з разнароднай культурай (мусульманскі могільнік у Студзянках, манастыр ў Яблачыне, Кодань і уніяцкі касцёл у Кастамлотах).

**Веслаў Грамадскі**

P.S. Osoby zainteresowane działalnością grupy literackiej „Pogranicze" proszone są o kontakt pod adresem: Wiesław Gromadzki, Klub Literacki „Maksyma" przy KK „Piast" w Białej Podlaskiej, ul. Spółdzielcza 4.

# НАБАЖЭНСТВА Ў РАЙСКУ

16 чэрвеня 1990 г., у сорак восьмую гадавіну пацыфікацыі Райска нямецкімі захопнікамі, адбылося набажэнства.

Афіцыйна, паводле нямецкага прысуду, 16 чэрвеня 1942 года было расстраляна 149 чалавек, у тым ліку малых і старых, але фактычна загінула больш, таму што некаторыя жанчыны з малымі дзецьмі далучыліся да сваіх мужоў з надзеяй, што немцы памілуюць іх. Але немцы не пашкадавалі і расстралялі намнога больш, чым вызначыў прысуд. Тых, хто застаўся жывы, вывезлі ў Германію, а вёску спалілі, зраўнялі з зямлёй, а на другі год пасеялі жыта. Частка вывезеных у Германію жыхароў Райска ўжо ніколі не вярнулася дамоў.

У час пацыфікацыі звычайнай вёскі немцы карысталіся сіламі вермахта, паліцыі, артылерыі, а вакол вёскі кружылі два разведвальныя самалёты, званыя „рамамі", каб ніхто не змог уцячы.

Сёлета, як штогод, святар царквы святых апосталаў Пятра і Паўла маліўся за ўпакой загінуўшых у час пацыфікацыі і на франтах II сусветнай вайны, а пасля павёў працэсію дарогай, па якой сорак восем гадоў назад немцы гналі народ на месца смяротнага пакарання, і там сказаў між іншым так: „Міру-мір, няхай нідзе і ніколі не паўтарыцца трагедыя, якая сустрэла гэтую вёску. Назва мясцовасці Райск выводзіцца ад Божага раю, які трэба шанаваць і імкнуцца да таго, каб людзі людзям не нарыхтавалі падобных злачынстваў". Удзельнікаў урачыстасці было каля ста чалавек. На жаль, у гэтым годзе не было так урачыста, як калісьці. Не было прадстаўнікоў улад, школьнай моладзі, ветэранаў. Да 1975 года арганізаваліся маніфестацыі з удзелам школьнай моладзі, павятовых і ваяводскіх улад, прадстаўнікі якіх выступалі з прамовамі. У 1975—1988 гадах удзельнічалі ўжо толькі гмінныя ўлады ды моладзь пачатковай школы. А ў 1989 годзе ўжо не было нікога апрача святара, якому давялося заступіць усе ўлады. Яшчэ прыкра і тое, што сёлета на гэтым набажэнстве не было сярэдняга пакалення жыхароў Райска і навакольных вёсак. Мо сталася так таму, што ўрачыстасць выпала ў будні дзень?

*Рэфлексія старога чалавека:*

— Спакон вякоў жылі тут людзі і далей жывуць, хаця захопнікі пакінулі па сабе пустыню; у Райску не засталося ні людзей, ні царквы, нічога, а сёння бачыце, колькі дзяцей прычашчаецца ў новай, хаця драўлянай царкоўцы. І вёска, стаіць, і палі родзяць хлеб. А трэба вам ведаць, — гаварыў стары, быццам бы я не ведаю, — што гібелі нашай хацелі не толькі „рыцары" з тэўтонскімі крыжамі, але і пазнейшыя, польскія „рыцары" з рынграфамі з выявай Божай Маці на шыях. Таксама палілі, але ўжо толькі беларускія вёскі, і забівалі іх жыхароў. Адны і другія паказалі тым самым звярыны падыход да іншай нацыі. Прыкладаў таму шмат. Але я вам падам некалькі найбольш вядомых мясцовасцяў, дзе людзей палілі жыўцом: гэта Залешаны, Зані, Шпакі, Вілюкі. Аб іх „паклапаціліся" такія „патрыёты", як Рамуальд Райс — „Буры" і Хмялёўскі — „Рэкін".

Стары яшчэ нешта гаварыў, але ўжо не было часу яго слухаць, бо працэсія выходзіла з царквы, каб пайсці і памаліцца на месцы нямецкіх злачынстваў.

**Васіль Петручук**

# НАПЯРЭДАДНІ

каб не толькі паўстрымаць іхні націск, але і цалкам ліквідаваць гэтую смяротную пагрозу, зарадзілася ў беларускім Навагрудку і польскім Кракаве ўжо пры першых праявах агрэсіўных дзеянняў Ордэна ў адносінах да суседзяў. Але і Старабеларуская дзяржава — Вялікае княства Літоўска-Беларускае і Каралеўства Польскае вымушаны былі настолькі ўзмоцніцца ўнутрана ды наблізіцца адна да другое, каб велізарныя іх арміі змаглі з'явіцца на „палях роўных і вялікіх пад местам нямецкім пад Дуброўным", бо гэтак называлі нашыя продкі яшчэ ў XVI ст. месца Грунвальдскай бітвы, чаму сведчанне — пачэрпнутыя з „Хронікі" Быхаўца гэтыя словы.

Трэба таксама мець на ўвазе, што, калі воі Вялікага княства Літоўска-Беларускага з калыскі ўзгадоўваліся ў атмасферы навісаючай над усімі смяротнай крыжацкай пагрозы, то Каралеўства Польскае амаль з 1333 года і аж да 1409 года раскашавалася па сутнасці мірам з Ордэнам, бо цяжка ж палічыць вайною ўсяго некалькі дробных пагранічных сутычак. Кракаў за панавання Казіміра Вялікага (1333—1370) праводзіў у адносінах да крыжакаў нейтральную мірную палітыку, пры Людовіку Андэгавенскім (Анжуйскім, 1370—1382) вельмі прыхільна ставіўся да іх, а ўжо шчырым абаронцам Ордэна і непахіснай яго прыяцельніцай ды апякункай была каралева Ядвіга (1374—1399). Гэтую традыцыю мусіў працягваць і Ягайла пасля смерці жонкі датуль, пакуль належным чынам не ўмацаваўся на кракаўскім троне. Зрэшты, такое было пажаданне папы рымскага, які ў крыжаках бачыў не толькі пашыральнікаў хрысціянства сярод язычнікаў у Прыбалтыцы, але (і гэта перш за ўсё) магутную зброю ў вынішчэнні нянавідных яму праваслаўных „схізматыкаў" ва Усходняй Славяншчыне. Да таго Польшча не мела асаблівых прычынаў на бітвы з крыжакамі: была такой самай веры ды і межавала з імі на працягу ўсяго каля 200 кіламетраў (у ніжнім цячэнні Віслы) і Ордэн згодна з воляю папы асцерагаўся накіроўваць свае „рэйзы" на польскія землі. Затое на Вялікае княства Літоўска-Беларускае ў тыя ж тры чвэрці стагоддзя прыходзілася ў сярэднім па 7—8 крыжацкіх нашэсцяў у год уздоўж усяе болей за 600-кіламетровай граніцы. Ахвярай гэтых нападаў пераважна была беларуская зямля. Пры тым і ўнутры Вялікага княства цяжар барацьбы супраць крыжацкай навалы амаль цалкам прыходзіўся на беларусаў, бо няма падставаў нават гаварыць пра якісьці значны ўдзел у ёй карэнных летувісаў-літоўцаў, таму што большасць іхніх зямель пераважна знаходзілася або пад панаваннем, або пад уплывам крыжакоў (асабліва Жамойць), да таго каля паловы насельніцтва Аўкштоці складалі беларусы. Невякілая дапамога ішла і з украінскіх зямель. Гэта ж толькі вялікі князь Аляксандр-Альгерд у выніку 22-гадовай вайны (пачынаючы з 1351 г.) супраць татараў вызваліў з іхняга ярма ўкраіскія землі і паставіў паўднёвую граніцу Старабеларускай дзяржавы на беразе Чорнага мора пасля разгрому ў 1363 г. Залатой арды і ён паднявольных рускіх князёў на рацэ Сінія Воды. Таму нават цяжка было патрабаваць, каб з гэтых знявечаных 120-гадовай татарскай няволяй зямель магла ісці якая-колечы дзейсная падтрымка супраць Ордэна.

Адна з першых нарадаў караля з вялікім князем у справе паходу супраць крыжакаў адбылася ў марозныя снежаньскія перадкалядныя дні 1408 года ў ранейшай сталіцы Старабеларускай дзяржавы, старажытным Навагрудку. Гэты горад Ягайла вельмі любіў і прыбыў у яго яшчэ цёплай восенню, выправіўшы Вітаўта ў паход супраць Масквы, а потым нецярпліва чакаў выніку. Чакаць жа давялося даволі доўга, бо хаця да бітвы і не дайшло, але перамовы паміж віленскім цесцем і маскоўскім зяцем зацягнуліся. Пасля іх заканчэння Вітаўт на расстаўных конях віхрам прымчаўся ў Наваградак з добраю весткаю: прывозіў мір з Масквою. Потым да гэтага далучыўся не менш пацяшальны саюз Вялікага Ноўгарада супраць крыжакаў.

Каляду, відаць, спажывалі самі ў княжацкай, аздобленай роспісам ды ўвешанай зброяй і шкурамі ўпаляванай звярыны прасторнай павалушы, якая знаходзілася ў новазмураванай Шчытавой вежы Навагрудскага замка. Смакуючы калядныя стравы ды пазіраючы на палаючыя паленні ў жарале печы, яны не спынялі разважанняў, абмяркоўвалі розныя сітуацыі, якія могуць узнікнуць па ходу вайны.

Некаторыя польскія аўтары выказваюць прытворнае здзіўленне, чаму гэта, маўляў, кароль Ягайла планы паходу на крыжакаў не абмяркоўваў з Вітаўтам і найвышэйшымі саноўнікамі Каралеўства ў раскошных пакоях Вавеля, але дзеля гэтага сустракаўся толькі з дваюрадным братам і то не ў Польшчы, а на беларускай зямлі — у Навагрудку, Бярэсці. Няма чаго гэтым панам крывадушнічаць ды наіўным здзіўленнем прыкрываць вельмі просты і ўсім вядомы факт: увесь кракаўскі каралеўскі двор — ад найнікчэмнейшага прыслужніка пачаўшы і на самым важнецкім вяльможы кончыўшы — усе былі падкуплены крыжацкімі шпіёнамі і пра кожны Ягайлаў крок ці ягонае слова з усімі падрабязнасцямі неўзабаве ведаў у Мальборку вялікі магістр. Толькі на беларускай зямлі, на сваёй Бацькаўшчыне, польскі кароль адчуваў сябе бяспечна і ўпэўнена. Гэта датычыцца не аднаго Ягайлы, бо таксама было з ягоным сынам Казімірам Ягелончыкам, унукам Аляксадрам Ягелончыкам і праўнукам Жыгімонтам Аўгустам і не толькі з імі...

Шчытавая вежа ў Навагрудскім замку стала па загаду Вітаўта на фундаменце колішняй, з цесанага камення, але моцна пашчэрбленай крыжацкімі гарматнімі кулямі вежы, у якой жыў, выношваў свае велічныя планы, смакаваў здабыткі і смуткаваў над няўдачамі ды загінуў у ёй легендарны Міндоўг. І ў пошуме снежаньскай завірухі за вузенькімі высокімі вокнамі, і ў патрэскванні галоўняў у печы ім, магчыма, мроіліся баявыя клічы ды скрыгат зброі сама меней пяці пакаленняў вояў, што загінулі ў змаганні з крыжацкім напорам. І хто ведае, ці ў свядомасці Вітаўта і Ягайлы не лунаў тады вобраз Міндоўга — першага будаўніка магутнасці Вялікага княства Літоўска-Беларускага...

*(Заканчэнне будзе)*

**Мікола Гайдук**

# ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ

(Працяг са стар. 1)

Тамара Малевіч і Людміла Мацкевіч.

III месца падзялілі салістка Ала Дубец з Санока і дуэт з Бельска: Яўгенія Коршак і Кастусь Селевановіч.

**Сярод калектываў:**

I месца заняў рок-гурт „Альбаросіка" з Беластока.



*Члены журы фестывалю сярод публікі: кампазітар Валянціна Сярых, этнамузыколаг Да рота Фрасункевіч, мастак Лявон Дзягілеў і рэжысёр Уладзімір Мішанчук.*

II месца — дзявочае трыо з Бельска (Лідзія Маліноўская, Аліна Бурыла і Багуслава Карчэўская).

III месца падзялілі ансамбль „Світанак" з Гародні і калектыў з Беластока.



*Над шматлікай публікай краса валіся бел-чырвона-белыя сцягі.*

Дзве ўзнагароды ад імя публікі (уручылі іх госці з Мінска, а грошы прыдзялiў Беларускі фонд культуры) атрымалі Ала Дубец з Санока і Люба Гаўрылюк з Беластока.

Спецыяльныя прызы і дыпломы атрымалі:

1. Таццяна Мархель з Віцебска — за індывідуальную інтэрпрэтацыю беларускіх народных песень, як было напісана ў дыпломе. Салістка гэта выканала ў конкурсе толькі дзве песні: адна была поўная такой журбы, што сціскала за сэрца, а другая, вясельная, так развесяліла публіку, што вядучы канцэрт Мікалай Бушко выказаў думку, што Таццяна магла б стаць найлепшай каравайніцай на нашых традыцыйных вясковых вяселлях. Абедзве гэтыя песні артыстка пераняла ад роднай маці, якая і сёння, хоць 80-гадовая, усё яшчэ любіць паспяваць, асабліва з дачкою.

2. Люба Гаўрылюк — за асаблівую душэўнасць пры выкананні песень і за інтэрпрэтацыю сучасных песні.

3. „Хлопцы-Рыбалоўцы" — за выкананне арыгінальных аўтарскіх песень.

4. **Народны калектыў з Дабрывады** — за захаванне мясцовых вакальна-этнічных традыцый.

Дыпломамі былі ўзнагароджаны кіраўнікі мастацкіх калектываў:



*Ала Дубец з Санока.*

Сяргей Лукашук з Бельска — за развіццё беларускай нацыянальнай спадчыны і выхаванне маладых выканаўцаў.

Сцяпан Копа за шматгадовую і плённую працу з фальклорнымі калектывамі.

II дзень фестывалю быў суцэльнай духоўнай раскошай для ўлюблёных у беларускую песню. Канцэрт пачаў вельмі ж прылюдны рок-гурт з Віцебска „Грамада". Чаго яны толькі не выспеўвалі, чаго яны не выраблялі, каб разагрэць публіку! І гэта ім цудоўна ўдалося. Публіка ўдзельнічала ў іх праграме, не толькі ўспрымала яе: і падспеўвала і дапамагала рытмічнымі воплескамі, і нават па загаду саліста Генадзя Шэмета спявала за яго. Вядома, пры гэтым асаблівым спрытам вылучалася моладзь. Хлопцы і дзяўчаты не далі сыйсці хутка са сцэны і іншым рок-гуртам — „Улісу" і „Мроі" яшчэ ў першы дзень конкурсу. Тыя вымушаны былі спяваць да позніх гадзін. Ды і ў заключным канцэрце гэтыя рок-гурты спадабаліся гледачам, навязаўшы з імі непасрэдны кантакт.

Паміж выступленнямі рок-гуртаў выступілі яшчэ раз лаўрэаты і дыпламанты конкурсу. Каб не расцягваць занадта канцэрту, арганізатары дазволілі ім заспяваць толькі па адной песні! Затое якія ж гэта былі песні! А іх выкананне! Хацелася слухаць, а рукі балелі ад апладысментаў.

У заключным фестывальным канцэрце выступілі таксама вядомыя і слаўныя ўжо ў нас вялікія хоры: „Васілёчкі" з Бельска, хор Дома культуры з Гайнаўкі (вядзе яго цяпер дырыжор Анна Стрыха з Гародні), хоры з Беластока і Гарадка.

Няцяжка сабе ўявіць, як зайграла ўсімі колерамі вясёлкі сцэна, калі ўсе гэтыя хоры і ўсе ўдзельнікі фестывалю выйшлі разам на сцэну, каб супольна развітацца з гледачамі. І залунала тады над Беластокам наша беларуская песня, ужо даўно ўвабраўшая ў сябе на нашай зямлі сімволіку гімна — „Люблю наш край, старонку гэту".



*Ансабль песні і танца „Світа нак" з Гародні.*



*Спявае Таццяна Мархель у суправаджэнні хлопцаў з віцебскай „Грамады".*





*У суправаджэнні музыкаў спявае дуэт бельскіх „Васілёчкаў" (Яўгенія Коршак і Кастусь Селевановіч) і трыо дзяўчат з Бельскага дома культуры (Лідзія Маліноўская, Багуслава Карчэўская і Аліна Бурыла).*

Дэкаратыўным упрыгожаннем фестывалю былі выступленні мінскага „Тэатра мод". Тэатр прывёз на фестываль спектакль, названы „Скарыніянай" (у гонар адзначэння сёлета 500 гадавіны з дня нараджэння Ф. Скарыны), а таксама некалькі карцінак моды з розных эпох, такіх, як „Сучасная мода", „Вясковыя прыгажуні з Мінска", „Шляхецкая кадрыля", „Дэрбі", „Беларускі рэнесанс". Гэты мінскі прафесіянальны тэатр паказаў нашай публіцы каля 200 розных камплектаў адзення. Як сказаў вядучы тэатра, сам акцёр і рэжысёр, Саша Варламаў, быў гэта погляд сучаснага мастака на розныя перыяды ў гісторыі нашага адзення. Што ж датычыць спектакля „Скарыніяна" — дык гэта ўжо не проста паказ моды скарынінскіх часоў, гэта ўжо балет, чароўны спектакль — гармонія адзення, руху, музыкі і нейкай несамавітай таямнічасці, якая вядзе гледача ў далёкую мінуўшчыну. Тэатр працуе пад кіраўніцтвам мастака-рэжысёра Іны Булгакавай пры саўдзеле балетмайстраў і мастакоў па касцюмах.

„Скарыніянай" закончыўся апошні фестывальны вечар, а з ім і I міжнародны фестываль беларускай песні ў Беластоку. Задуманы ён быў вельмі шырока, як на нашыя сённяшнія магчымасці, з размахам. Не ўсё, можа, удалося, як хацелася б арганізатарам. Не на ўсё хапіла сродкаў, мальм аказаўся штаб штатных працаўнікоў для абслугі фестывальных гасцей. Але, хоць было нялёгка, усё ж сёння можна сказаць, што першы блін не абавязкова павінен быць комам. Гледачам фестываль спадабаўся. Два дні духоўнай стравы — беларускай песні, музыкі, жарту ў атмасферы нашай беларускай сімволікі ў самым цэнтры Беластока, шматлікіх, часам неспадзяваных сустрэч з сябрамі ды сваякамі пры гэтай нагодзе ў амфітэатры далі магчымасць многім беларусам мацней адчуць гонар за наш народ, хоць трошкі выпрастацца ад гнёту нялёгкай нашай будзёншчыны, адчуць сябе людзьмі больш вартаснымі і значнейшымі.

Няхай ён будзе, наш беларускі беластоцкі фестываль! Няхай будуць часцейшымі сустрэчы беларусаў з усяго свету. І неабавязкова нават з конкурсамі. Няхай беластачане запрашаюць да сябе ў госці далёкіх беларусаў і самі няхай ездзяць да іх у госці. Мы ж — адна сям'я! Да новых сустрэч!

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



*Народны калектыў „Каліна" з Дашоў.*



*Карцінка „Дэрбі" ў выкананні „Тэатра мод" з Мінска.*

## МОДНІЦА

Кася любіла модна апранацца. Адна была ў бацькоў. Хаця не жылі занадта багата, але бацькі стараліся дагадзіць дачцэ, як маглі.

Пайшла замуж. Бацькі мужа не хацелі нават слухаць, каб купіць нейкае новае адзенне для нявесткі. У іх былі свае дзеці, яшчэ тры незамужнія дочкі і сын-кавалер. Бацькі Касі далей куплялі або давалі ёй грошы на модную вопратку.

Так праходзілі гады. Бацькі Касі і Віці памерлі. Сёстры павыходзілі замуж, брат пайшоў у прымы.

Засталіся яны адны з сынам. Кася па-ранейшаму думала толькі аб сабе. Муж і сын апраналіся, як беднякі, а яна — як каралева. Віця пачаў піць. Аднойчы па-п'янаму трапіў пад машыну. Кася засталася з дарослым сынам.

Сын закончыў прафесіянальную школу і пасяліўся ў горадзе. Хутка ажаніўся і меў свае клопаты.

Сумна стала Касі жыць. Пачала разглядацца за новым мужам. Хтось пажартаваў, што ёсць стары, багаты кавалер. Жанчына выправілася з ім пазнаёміцца. Паехала ў агляды. Вядома, там цікавіла яе толькі адно — яго багацце!

Выйшла замуж. Спачатку не магла нацешыцца ўсім, пасля муж перастаў ёй падабацца. Давай ездзіць у горад на танцы! Так пазнаёмілася з удаўцом.

— Ведаеш, — гаварыла каханаму, — я забяру ад таго недарэкі золата і долары, і будзем жыць з табою!

Спагадлівыя людзі пераказалі мужу, а той усе каштоўнасці перанёс да сваіх сясцёр. Прыехала Кася дахаты — а тут пуста!

Знервавалася, паехала да сына, а той, даведаўшыся, у чым справа, прагнаў маці з дому. Вярнулася Кася да мужа і сядзіць цяпер ціха, як мыш пад венікам.

**Аўрора**

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 21 —

Такім чынам, не чакаючы на склікание парламента, Выканаўчы камітэт самастойна вырашыў цэлы рад важных праблем, якія датычылі сістэмы Беларусі, выбарчага права, правоў грамадзян, раўнапраўнасці паасобных нацыянальнасцей у Беларусі, праблемы ўласнасці на зямлю, устанаўлення васьмігадзіннага рабочага дня.

Вырашаючы дзве апошнія справы, аўтары імкнуліся прыцягнуць народныя і работніцкія масы. Быццам бы Выканаўчы камітэт намерваўся аб'явіць поўную незалежнасць Беларусі, аднак не рашыўся гэта зрабіць з увагі на земствы і гарадскія самаўправы, якія мелі грошы, а пры тым былі моцна русіфікаваны і не падтрымалі б такую пастанову.

Абвясціўшы II устаўную грамату, Выканаўчы камітэт, маючы ў сваім складзе прадстаўнікоў земстваў і гарадоў, патрактаваў сябе як прадстаўніка Беларусі і прыняў назву „Рада Беларускай Народнай Рэспублікі".

### РАЗДЗЕЛ XIII

**Устанаўленне кантактаў з Вільняй. Пастанова аб незалежнасці Беларусі і III Устаўная грамата ад 25 сакавіка 1918 года. Падзел ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Узнікненне партый: Беларускіх сацыял-рэвалюцыянераў (эсэраў), Беларускіх сацыял-федэралістаў, Незалежных сацыялістаў і Беларускай камуністычнай партыі. Беларускае народнае прадстаўніцтва ў Мінску. Размовы ў справе ўзмацнення Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Рада народных міністраў. Урад А. Луцкевіча. Эсэраўскія камітэты. Настрой сярод беларускага насельніцтва.**

Як ужо было сказана, акупацыйныя ўлады падзялілі тэрыторыю Беларусі на часткі, якія не маглі паміж сабой паразумявацца. Аднак віленскія дзеячы, выпадкова даведаўшыся, што ў Мінску былі ажыццёулены ў беларускай справе пэўныя факты, прыслалі ў Мінск сваіх прадстаўнікоў. Каля 20 сакавіка 1918 года з Вільні прыехала ў Мінск пяць членаў Віленскай беларускай народнай рады: Антон і Іван Луцкевічы, Дамінік Сямашка, Ян Станкевіч і Туркевіч.

У тым якраз часе быў падпісаны Брэсцкі мір, у разуменні якога амаль уся Гродзеншчына была аддадзена Літве, а дзесяць паветаў Чарнігаўскай, Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў — Украіне. Пад уплывам абодвух фактаў: прыезду дэлегатаў Віленскай беларускай народнай рады і заключэння ў Брэсце міру, у якім не было гутаркі аб беларускай дзяржаве, — левая частка Рады Беларускай Народнай Рэспублікі насуперак волі прадстаўнікоў земстваў, гарадскіх самаўрадаў і членаў з прарускай арыентацыяй на пасяджэнні ноччу з 24 на 25 сакавіка прыняла пастанову аб незалежнасці Беларусі. Пасля гэтага факту, тыя члены Рады, якія не згаджаліся з ідэяй незалежнасці, выйшлі з залы і парвалі кантакт з Радай.

Дня 25 сакавіка 1918 года была аб'яўлена III Устаўная Грамата з такім зместам:

„Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі ськінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павіна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

**Рада Беларускай**
**Народнай Рэспублікі**

Дана ў Менску-Беларускім
24 сакавіка 1918 року."

*(Працяг будзе)*

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**9. Лічэбнік — працяг.**

Некаторыя лічэбнікі могуць страчваць сваё колькаснае значэнне і пераходзіць у разрад іншых часцін мовы:

— займенніка: **Адны** робяць справу, **другія** выгляд робяць. (М.М.) — 'некаторыя',

— прыметніка: Зімою і летам **адным** цветам. (Прым.) — 'аднолькавым',

— прыслоўя: Хадзіў ці доўга ён, ці мала, ды толькі нешта **адзін раз** бяда ў бары яго спаткала. („Тарас на Парнасе") — 'аднойчы',

— часціцы: Вяртаюцца пісьмы, вяртаюцца сны, — **адно** не вяртаюцца людзі з вайны. (Бач.) — 'толькі'.

„Для абазначэння няпэўнай, недыферэнцыраванай колькасці ўжываюцца **няпэўна-колькасныя словы: многа /нямнога, мала /нямала, трохі/ шмат, столькі, гэтулькі, колькі, некалькі.** Гэтыя словы хоць і выражаюць колькасныя паняцці, аднак не маюць значэння ліку... Хоць няпэўна-колькасныя словы ў некаторай ступені і блізкія да лічэбнікаў, аднак паводле значэння і граматычных прымет адны з іх (**многа /нямнога, мала /нямала, трохі /шмат**) мэтазгодна разглядаць як прыслоўі, другія (**некалькі, столькі, колькі**) — як займеннікі".[1]

Пры дапамозе лічэбнікаў можна выражаць дакладную або прыблізную колькасць (час, адлегласць, узрост, даўжыню...).[2]

Каб выразіць **дакладную колькасць**, лічэбнік павінен быць у прэпазіцыі да назоўніка ў колькасна-іменным словазлучэнні (**тры гады, пятнаццаць метраў**).

Для абазначэння адлегласці выкарыстоўваецца словазлучэнне з прыназоўнікам **за: За тры кіламетры** ад шашы стаяў калісьці невялічкі хутар.

Прыназоўнік **за** выкарыстоўваецца таксама пры абазначэнні часу: **За дзве гадзіны** да заняткаў маці прывяла яго ў школу. Для абазначэння часу выкарыстоўваецца яшчэ прыназоўнік **праз: Праз дзве гадзіны** прыбеглі хлопцы. Можна абазначаць час і беспрыназоўнікавымі канструкцыямі: Спаткаўшыся, размаўлялі **дзве гадзіны.**

Размер і вага вызначаецца пры дапамозе азначальных словазлучэнняў, якія складаюцца з творнага склона слоў **вышыня, даўжыня, таўшчыня, вага,** прыназоўніка **у** і колькасна-іменнага словазлучэння: дрэва **вышынёй у пяць метраў,** зямельны ўчастак **даўжынёй у дваццаць чатыры метры,** дошка **таўшчынёю ў чатыры сантыметры,** калёсы з сенам **вагою у паўтары тоны.** Магчымыя таксама беспрыназоўнікавыя канструкцыі (бочка **вагою адзін цэнтнер**), або з прыназоўнікам **на** (шчупак вагой **на тры кілаграмы**).

**Прыблізная колькасць** перадаецца наступнымі спосабамі:

— Колькасна-іменнымі спалучэннямі з прыназоўнікамі: яму **каля сарака год** (менш або больш чым сорак), яму **за шэсцьдзесят год** (крыху больш чым шэсцьдзесят), яму **пад пяцьдзесят год** (крыху менш чым пяцьдзесят), налавілі **з вядро** рыбы (больш-менш вядро).

— інверсіяй лічэбніка: ісці **гадзіны дзве,**

— інверсіяй лічэбніка з прыназоўнікам: **гадоў з шэсць** жыў ён за мяжой, яму **год пад пяцьдзесят,** яму **год за сорак.**

— двума лічэбнікамі: пазыч мне на тыдзень **дзве-тры** кнігі, прынясі **тры-чатыры** палены дроў,

— інверсіяй і двума лічэбнікамі: трэба будзе ехаць гадзіны **дзве-тры,**

— спалучэннем назоўніка ў адзіночным ліку + **другі:** дай яму **рубель-другі,**

— пры дапамозе няпэўна-колькасных слоў: **некалькі** хлопцаў, **шмат** грыбоў, **мала** кароў.

---

[1] М.С. Яўневіч, Лічэбнік. Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. М.Ф. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 114-114.

[2] А.А. Кривицкий, А.Е. Михневич, А.И. Подлужный, Белорусский язык для небелорусов. Минск 1978, с. 236—237; T. Jasińska-Socha, J. Głuszkowska, Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego, Warszawa 1985, s. 39—46.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, я занепакоілася сном, які мне сёння прысніўся. Мой брат збіраецца ехаць заграніцу. І вось пра яго мой сон. Нібыта іду я яму па метрыку нараджэння. Зайшла ў нейкі дом, а там сядзяць дзве манашкі. Адна з іх падобная на маю сяброўку. Яны мне далі гэтую метрыку. Я ўзяла і пайшла дамоў. Яшчэ дадам, што калі я ішла па метрыку, быў позні вечар, а калі вярталася назад, было ўжо цёмна. Ідучы, я ўгледзела, што на гэтай метрыцы няма ні пячаткі, ні подпісу, толькі нармальная нейкая пісулька, напісаная чырвоным алоўкам. Я паказваю яе брату, і гавару: „Трэба ісці яшчэ раз да іх, каб папраўілі". І я пайшла. У дом, дзе былі тыя манашкі, трэба ісці па сходах. Я іду, і мне зрабілася кепска. Я самлела. Калі апрытомнела, вакол мяне стаялі манашкі, а адна манашка старэла на вачах і стала падобнай на маю старую цётку.

**Таня**

Таня! Нездарма ты занепакоілася сном пра свайго брата. Бадай, твой брат будзе мець нейкія клопаты з паперамі. Тое, што ты ішла наверх да тых манашак, пакуль не самлела, абазначае пра цяжкасці ў афармленні нейкіх спраў. Можа вынікнуць нейкая грашовая страта, а тое, што манашка на тваіх вачах старэла і брыдчэла, сведчыць аб кепскім ходзе спраў.

**Астрон**



## САЛАТЫ З ГАРОДНІНЫ

### САЛАТА, ЯБЛЫКІ І АГУРКІ

На 1 галоўку салаты ўзяць шклянку ёгурту, 1 кіслы яблык, 2 свежыя агуркі, соль, цукар і перац па смаку, 4 лыжкі пасечанага ўкропу.

Салату ачысціць і старанна памыць, асушыць. Памыты яблык ababраць, сцерці на гароднінай тарцы і адразу перамяшаць з ёгуртам. Заправіць соус па смаку цукрам, соллю і перцам, а пасля гэтага перамяшаць з пасечанымі зёлкамі. Асушаную салату нарэзаць палосачкамі, перамяшаць з падрыхтаваным соусам. Дадаць агуркі, перад гэтым памытыя, абабраныя і нарэзаныя макаронікам. Падаваць адразу пасля падрыхтоўкі.

### МАЛАЧАЙ, ЦЫБУЛЯ І САЛАТА

На 1—2 галоўкі салаты ўзяць пучок зялёнай цыбулі, 3 лыжкі пасечаных, узятых з сярэдзіны лісткоў малачаю, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 4 лыжкі смятаны, лімонны сок, соль і цукар па смаку.

Старанна памыць гародніну, асушыць. Смятану спалучыць з лімонным сокам, дадаць солі і цукру па смаку. Перамяшаць з пасечанай пятрушкай і малачаём. Салату нарэзаць, цыбулю дробна пасячы. Усё перамяшаць. Можна дадаць солі і цукру. Адразу падаваць.

**Гаспадыня**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Вісарыён Гарбук




Рос у Сойкі цудоўны сыночак. Ветлівы, вясёлы. Песенькі спяваў. Заўсёды ўсім дапамагаў. Аднойчы неяк не ўтрымаўся: убачыў у суседкі нанізанага на калючку акацыі вусеня і цішком з'еў яго. Сарока ўбачыла гэта і сказала суседцы. Суседка прылящела да Сойкі.

— Ваш малы спакусіўся маімі прысмакамі. Іх не шкада, але я баюся за вашага хлопчыка.

— Не можа быць! — адказала Сойка суседцы.

— Сарока бачыла.

— Гэта ўсім вядомая пляткарка! — абурылася Сойка. — Сынок! Ты не браў вусеня? Добра ведаю — не браў.

Сын вельмі збянтэжыўся.

— Я толькі хацеў зі... зір...

— Усё ясна! — падхапіла маці. — Ты толькі зірнуў на вусеня і не чапаў. Сама Сарока яго з'ела, а на беднае дзіця паклёпнічае.

Яшчэ доўга ў лесе чуўся абураны голас Сойкі:

— Бессаромныя вочы! Хай пакажуцца! Я ёй усё пер'е выскубу з хваста!

Неўзабаве да Сойкі прыляцелі Дразды: бацька і маці. Яны скардзіліся, што раніцай яе сын крыўдзіў малых: надаваў кухталёў, паламаў цацкі, палохаў ястрабам.

— Абазналіся вашыя дзеткі, — адказала Сойка Драздам. — Сын блізка не быў ля вашага гнязда. Дома чытаў, касмічныя караблі маляваў. І наогул мой хлопчык пальцам ніколі нікога не кране! Праўда, сынок?

— Хлусяць іхнія дзеткі, — пацвердзіў сынок.

— Журавель цябе бачыў, — сказалі Дразды. — Сароміў.

— Няхай дакажа, што бачыў! — Каб ён сабе свае доўгія ногі сто раз паламаў, гэты лгун! — раскрычалася Сойка. — Заліў свае вочы гарэлкай з самага ранку і пляце розную лухту.

— Што вы! — здзівіліся Дразды. — Ён кропелькі гэтай атруты ў рот не бярэ. Яго ўсе паважаюць... Ён — культурны...

— Знайшліся абаронцы! Не бярэ! Культурны! — накінулася на Драздоў Сойка. — Чым дарма па лесе лётаць, дома сядзелі б, малых даглядалі! Вашы неслухі самі любога пакрыўдзяць. Счубіліся між сабой, а на майго хлопчыка плявузгаеце.

І яна прагнала Драздоў прэч.

Чым больш рабіўся Сойчын сынок, тым часцей крыўдзіліся на яго жыхары лесу. Але зрабіць нічога не маглі. З Сойкай яны ўжо не адважыліся размаўляць.

Наведаўся да яе сам Грак — дырэктар Лясной школы. Перадаў скаргу настаўніцы, што сын не вучыцца, свавольнічае, днямі не бывае ў школе.

— Ваша настаўніца дарма чэпіцца да майго сына, — заявіла дырэктару Сойка. — Ён заўсёды адказвае на „выдатна", а яна знарок ставіць яму толькі дрэнныя адзнакі. Вядома, пасля гэтага прападае ўсякае жаданне вучыцца... Але, я ведаю, два дні сын не быў на ўроках...

— Два тыдні, — паправіў Грак.

— Нічога страшнага. Бедны хлопчык ператтаміўся, крыху адпачыў. Што ж тут такога!..

— І ґалава балела, — дадаў сынок.

— Вось бачыце! — усклікнула Сойка. — А вы ні ў чым не разабраліся і нападаеце. Я патрабую перавесці майго сына да другой настаўніцы. Інакш сама не пушчу яго ў школу! А на вас буду скардзіцца, куды належыць.

— Мая дарагая мамачка! — паказаўшы ўслед Граку язык, кінуўся да Сойкі сынок. — Ты ў мяне самая лепшая маці ў свеце!

— І што ў нас за суседзі, што за настаўнікі?! — пагладзіла па галоўцы Сойка сынка. — Проста праглынуць гатовы! За кожным крокам сочаць. Іх дзеці, можа, яшчэ больш сваволяць. Ім можна, а табе нельга. Але я цябе не дам у крыўду. І пакуль не паправішся як след, не пойдзеш у школу. Ты і так усё добра ведаеш. Лепш паспявай.

Папраўляўся Сойчын сынок, адпачываў, пасвістваў ды застаўся на другі год у тым самым класе.



*Хлопцы з Чаромхі — лаўрэаты конкурсу „Беларуская песня '90" для школьнікаў.*

*Фота Я. Чэрнякевіч*

Данута Бічэль-Загнетава

### РАНІЦА

Раней за сонца ўстану рана я.
Такое ранне не прасплю.
Прайдуся росамі, крамяная,
Улюблёная ў сваю зямлю,
І пабягу з вятрамі гонкімі
Па ўсіх шляхах зялёных —
Сустрэне луг мяне рамонкамі,
А поле — сінню лёну.
А лес грыбамі запалоніць:
Лісіц — грабі ў ахапкі,
Баравікі ў зямным паклоне
Скідаюць самі шапкі.
Я за чарніцамі-ўсмецкамі
Залезу у гушчэчу...
Унізе пахне сыраежкамі,
А зверху птах шчабеча.
Паабтрасаю росы з голля
І выбегу на ўзлессе...
Абсыпана густое поле
Жаўруковай песняй.
Ліецца песня з-пад блакіту
На жыта, ўсё на жыта,
Жывое серабро нібыта,
Як я, расой абмыта.
Усё спявае і смяецца,
І так навокал светла,
І можна абысці, здаецца,
За сонейкам паўсвета.



Васіль Лаўрыновіч

### КАЛАСОК-МЕДУНОК

Несціхана дзесьці звоніць
Жаўруковы галасок.
Я трымаю на далоні
Жыта спелы каласок.

Залацісты і вусаты,
Сэрца кожнага кране.
Вочы — буйныя зярняты —
Пазіраюць на мяне.

Убіраць цябе гатовы
Грамадою, каласок,
А над полем васільковым
Жаўруковы галасок:

— З хлебам новым!
Шчасцем новым! —
Мой харошы медунок! —
Сыпаў трэлі жаўручок.



*Кася Ахрымюк са Старога Ляўкова — удзельніца конкурсу „Беларуская песня '90“ для школьнікаў.*
*Фота Я. Чэрнякевіч*

## ЗАГАДКІ

1.

Улетку шэранькі, узімку беленькі, доўгія вушы мае, хутка ў лес уцякае.

2.

Без рук, без сякеры зроблена хата і дзверы.

3.

Шапачка маленькая, камізэлечка нятканая, кафтанік рабенькі, ды ходзіць босенькі.

4.

Спераду шыльцы, ззаду вільцы, на версе чорнае сукно, падыспадам белае палатно.

(Адгадкі: заяц, гняздо, верабей, ластаўка).

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Авяр'ян Дзеружынскі**

### СОНЦА СЕЛА ЗА ЛЯСОК

**Сонца села**
**За лясок**
**І згубіла**
**Паясок.**
**Мусіць, ён,**
**Залаты,**
**Учапіўся**
**За кусты.**
**У лясок**
**Хутчэй пайду.**
**Паясок**
**Я там знайду.**
**Ранкам**
**Сонейку аддам,**
**Што так ярка**
**Свеціць нам.**

### ВАСІЛЁК

**Стаіць,**
**Выглядаючы з жыта,**
**Як зорачка-знічка**
**Здалёк,**
**Што ўпала**
**Іскрынкай**
**З блакіту,**
**Палеткаў краса —**
**Васілёк.**

**Калі расцвітае**
**Цуд гэты,**
**На полі**
**Яшчэ гарачэй,**
**Буяе,**
**Квітнеецца лета**
**І фарбы прыроды —**
**Ярчэй.**

**Стаіць,**
**Паглядае з пагорка,**
**Як зорка**
**Аднекуль здалёк,**
**Часцінка**
**Любімай старонкі,**
**Часцінка зямлі —**
**Васілёк.**

**Валянціна Ермакова**

## СТРЫЖАНЯТКА

У палаце горача і душна, а за акном прыветна свеціць сонейка.

Па шырокіх прыступах лесвіцы Пеця павольна спускаецца ў бальнічны сквярык. Тут, на вялікай кветкавай клумбе, адразу расцвіло пяць чырвоных макаў — вялікіх, прыгожых, з чорнымі кропачкамі ўсярэдзіне.

Хораша ў скверыку гэтай ціхай светлай раніцай. Пеця радасна ўсміхаецца: хутка ён папраўіцца, будзе дома.

Раптам каля Пецевых ног садзіцца маленькая натапыраная птушачка. Хлопчык нахіляецца, працягвае руку. Птушка не ўцякае. „Што з ёю? — думае Пеця. — Відаць, таксама хворая“.

Пецю шкада птушкі. Заўтра да яго прыйдзе мама, а хто праведае птушку? Цяжка ўздыхнуўшы, Пеця кладзе птушку на далонь. Ён упершыню бачыць яе так блізка: жоўтая дзюбка і маленькія шэрыя крыльцы. А хваста зусім няма. „Ды гэта ж птушанятка!“ — здагадваецца ён. Кволае і бездапаможнае, яно спакойна сядзіць на Пецевай далоні, хістаючыся на тоненькіх ножках.

Пеця азіраецца: дзе ж мама гэтага птушаняці?

— Беднае ты маё! — шкадуе Пеця малога і кладзе яго на лісток трыпутніку. — Можа, крыху саргэешся.

Птушаня заплюшчвае вочы. „Відаць, птушкам нешта сніцца, — думае Пеця і ўспамінае, што хутка прыйдзе ўрач і трэба вяртацца ў палату. — Куды ж падзець птушаня? У палаце трымаць не дазволяць, а яно такое малое! Згіне без ежы“.

Птушаня ў руках сагрэлася, і яго шкада было турбаваць.

„Трэба знайсці гняздо“, — думае хлопчык. Ён асцярожна садзіць птушаня на спінку лаўкі, а сам ідзе на пошукі.

Раптам птушаня моцна заціўкала: „Ціў, ціў, ціў!“, што ў перакладзе з птушынай мовы азначае: „Мама, мама, мама!“

З-за кустоў вылецела шэрая, з доўгімі крыламі птушка. Яна асцярожна наблізілася да лаўкі: „Ці-у, ці-у, ці-у! Дзе ты было?“

Гэта мама-стрыж. Яна зрабіла некалькі кругоў над кветнікам і зноў падляцела да малога. Птушанятка павольна паднялося на тоненькіх ножках і няўпэўнена ўзляцела. Праўда, адразу ж і апусцілася на зямлю. Мама — да яго. Яна ўвесь час была побач, быццам старалася засланіць стрыжанятка ад Пеці. Лётала над малым. Здавалася, падбадзёрвала яго: не бойся, я з табою, ляці за мной!

Птушаня ўважліва назірала за мамай, потым рашуча паднялося і... паляцела. Хоць і недалёка, да суседніх кустоў акацыі.

Доўга б яшчэ сядзеў Пеця ў скверыку, каб не паклікалі ў палату.

З таго часу хлопчык усё часцей пачаў выходзіць у скверык, дыхаў свежым паветрам, папраўляўся. І кожны раз, назіраючы за птушкамі, стараўся адшукаць сярод іх сваіх старых знаёмцаў — стрыжа-маму і малое стрыжанятка.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Якуб хваліцца:

— Я магу прасядзець пад вадою нават паўгадзіны!

— Не дасі рады, — смяюцца хлопцы, — хіба што ў скафандры!

— Без скафандра!

— Не рабі з нас дурняў!

— Ну што вы! Я магу вытрымаць пад вадою і больш, толькі галава будзе наверсе.

* ✱ *

На ўроку заалогіі настаўніца тлумачыла, як яшчаркі скідаюць з сябе скуру.

— А як яны гэта робяць? — дзівіцца Пеця. — У іх скура на бліскавічны замок ці на гузікі?

* ✱ *

Ідуць хлопцы полем, у руках у іх біноклі. Адзін з іх глянуў на сяброў у бінокль ды кажа:

— Няўжо вы ж ужо пад лесам?

— Але, — адказвае другі, — адварні бінокль, дык нас побач убачыш.

* ✱ *

— Ну, як прайшла кантрольная па матэматыцы? — пытаецца тата. — Ты, Міша, у колькіх заданнях памыліўся?

— Толькі ў адным.

— Малайчына. А колькі ўсяго было?

— Дзесяць.

— Дык дзевяць добра палічыў?

— Не, зусім не ведаў як.



**АДГАДАНКА**

*Спалучы кропачкі ад 1 да 50. Што выйшла?*
*Фота В. Жушмы*

## ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

### ПРА КАМЕНЬ У ВАЛІЛАХ

Было гэта даўным-даўно, калі людзей тут яшчэ зусім не было. Вакол цягнуліся непраходныя пушчы-лясы ды вілася сярод іх вось гэтая рэчачка. У балотнай твані сядзеў д'ябал. Бачыце, калісьці нячысты толькі ў такіх месцах і вадзіўся. Гэта цяпер стаў ён па гарадах шляцца. Сядзеў ён так ды з нуды корпаўся ў балоце, ажно бачыць: берагам рэчкі ідзе чалавек. Здалёку, відаць, небарака вандраваў: схуднелы ды абдзёрты ўвесь. Убачыў рэчку, прысеў на купіну, а свае зморапыя ногі ў ваду апусціў ды пабоўтвае імі, каб хутчэй стому з іх сагнаць. А д'ябла ад злосці аж чорт носіць: „Бач ты, маўляў, мала таго, што па маім беразе валочыцца, то яшчэ і мяне сваім боўтаннем непакоіць уздумаў! Чаго добрага — возьме і назаўсёды тут жыць астанецца. Ну, тут то я цябе і звяду са свету“.

Выкалупаў нячысты з багна каменьчык, бы зярня бобу са струка, папляваў на яго, перакінуў разы са тры з адной сваёй калматай лапы ў другую, і тут убаччу маленькі камушок у аграмадны валун абярнуўся. Пачаў размахвацца д'ябал з усяе моцы, але ж як на тое ўзяў ды пасліснуўся ў топелі, і глыба замест у чалавека бухнула на скрай лугу. Убачыў вандроўнік, чым тут пахне, — лахі пад пахі ды ходу з гэтых мясцін. А валун так і астаўся ляжаць тут. Ад таго, што чорт уваліў тут валун, і павялася назва — Валілы.

*(З кнігі „Бяздоннае багацце“)*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) афіцыйнае найменне, 5) уюн, 8) беларускі паэт, 10) гарманічнае спалучэнне гукаў, 11) над вачыма, 12) пласт пяску або снегу, надзьмуты ветрам, 14) на кані пад коннікам, 16) член манашскага каталіцкага ордэна „Таварыства Ісуса“, 18) мужчынскае імя, 20) кожны гад мае свой..., 23) рыбалоўная прылада, 25) від кухоннай печы, 26) асілак, тытан, 28) цыркавая гімнастыка, 29) дзяржава ў Азіі, 30) не адна ў рої.

**Уніз:** 1) гліняная пасудзіна з ручкай і носікам, 2) дасканалая спявачка, 3) вечны гарыць ля помнікаў і на магілах, 4) сібірская рака, 5) увасабляецца акцёрам на сцэне, 6) з кнігамі, але не кнігарня, 7) адзінка падліку ў ігры, 9) галлё на паліва, 13) прыправа для ежы, 15) парфумны сродак, 17) высакародны метал, 19) косць у грудзях, 21) сталіца Сенегала, 22) на мяжы Еўропы і Азіі, 24) хлебны напітак, 25) цякуць слёзы, 27) задняя частка.

„ядань“

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 21.**

**Упоперак:** калаўротак, мяч, асоба, сыч, ганарар, аса, рант, павук, шал, каса, член, дублет, ніз, інструктар, кавальства.

**Уніз:** кастрычнік, лячэнне, рана, торф, карыкатура, мыла, гаспадар, саха, Баку, плуг, валет, гліна, сена, нота, бокс.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Тамаш Тапалеўскі з Бельска-Падляшскага і Альжбета Цішук з Райска.

# НІЎКА



— А мы якраз толькі што аб вас гаварылі.

Сакратарка:
— Шэф, у мяне дзве навіны: добрая і кепская.
— Давайце спачатку добрую!
— Шэф, вы не хварэеце бясплоддзем.

*

Нехта звяртаецца ў бюро знаходак на чыгуначнай станцыі.
— Я забыў у цягніку трохлітровую бутэльку віскі. Скажыце, калі ласка, вам яе не прыносілі?
— На жаль, не, сэр. Але прынеслі джэнтльмена, які яе знайшоў.

*

Яна:
— Я вымушана вас папярэдзіць, што мой муж будзе дома праз гадзіну.
Ён:
— Але я не раблю нічога заганнага!
Яна:
— Вось іменна. А часу застаецца ўсё менш.

*

Жонка:
— Як ты можаш піць гэтае паскудства?
Муж:
— Вось-вось, а ты ўсё гаворыш, што я прыемна праводжу час.

*

— Гэй, бармен! Я знайшоў спосаб, дзякуючы якому вы зможаце прадаваць удвая больш піва.
— Які, сэр?
— Налівайце куфлі даверху.

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

**Узносы жыхароў вёскі Вялікія Пасечнікі:**

| | | |
|---|---|---|
| 3251. | Яўген Іванюк | — 10000 зл. |
| 3252. | Мікалай Іванюк | — 10000 зл. |
| 3253. | Васіль Галёнка (№ 3) | — 10000 зл. |
| 3254. | Ян Галёнка | — 10000 зл. |
| 3255. | Васіль Галёнка (№ 5) | — 5000 зл. |
| 3256. | Сцяпан Смалюк | — 10000 зл. |
| 3257. | Аляксей Галёнка | — 20000 зл. |
| 3258. | Васіль Лаўрыновіч (№ 8) | — 1000 зл. |
| 3259. | Міхал Лаўрыновіч | — 1000 зл. |
| 3260. | Васіль Лаўрыновіч (Гайнаўка) | — 10000 зл. |
| 3261. | Аляксей Лаўрыновіч | — 4000 зл. |
| 3262. | Мікалай Варанчук | — 4000 зл. |
| 3263. | Пётр Нічыпарук | — 5000 зл. |
| 3264. | Уладзімір Галёнка (№ 16) | — 2000 зл. |
| 3265. | Міхал Куптэль | — 8000 зл. |
| 3266. | Васіль Галёнка (№ 31) | — 4000 зл. |
| 3267. | Мікалай Галёнка (№ 35) | — 7000 зл. |
| 3268. | Мікалай Галёнка (№ 33) | — 5000 зл. |
| 3269. | Пётр Галёнка | — 5000 зл. |
| 3270. | Мікалай Куптэль (№ 39) | — 1000 зл. |
| 3271. | Мікалай Куптэль (№ 37) | — 5000 зл. |
| 3272. | Мікалай Красько (№ 36) | — 2000 зл. |
| 3273. | Уладзімір Красько | — 2000 зл. |
| 3274. | Ян Красько | — 2000 зл. |
| 3275. | Мікалай Красько (№ 29) | — 5000 зл. |
| 3276. | Сцяпан Галёнка | — 5000 зл. |
| 3277. | Уладзімір Галёнка (№ 28) | — 2000 зл. |
| 3278. | Валянціна Красько | — 2000 зл. |
| 3279. | Ян Бурачык | — 400 зл. |
| 3280. | Мікалай Лаўрыновіч (№ 11) | — 10000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

# АФАРЫЗМЫ

**Хор бюракратаў спявае дзяржаве калыханкі.**

*

**Фанатыкі — гэта людзі, якія больш інтэнсіўна паміраюць, чым жывуць.**

*

**Слоўца „не“ — гэта найбольш надзейны засцерагальны сродак ад цяжарнасці.**

*

**Сучасны Сакрат: Ведаю, што іншыя нічога не ведаюць.**

*

**Хацеў бы я ведаць, што думаюць малпы аб Дарвіне.**

**Жарко Петан**


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149 tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 13-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.
Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 900 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— czerwiec — 3600 zł.
— lipiec — 4500 zł.
— sierpień — 3600 zł.
— wrzesień — 4500 zł.

Cena prenumeraty na III kwartał — 12.600 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 880/90 r.